Cena 60 gr.

Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (185) БЕЛАСТОК, 13 ВЕРАСНЯ 1959 ГОДА ГОД IV

Сёлеташняе святкаванне традыцыйных дажынак было асабліва ўрачыстым. Гэта ж 15-тыя Дажынкі ў Народнай Польшчы. Да Варшавы, дзе адбылася цэнтральная ўрачыстасць прыехала 60 тысяч сялян з усіх куткоў краіны. Яны сабраліся 6 верасня на стадыёне Дзесяцігоддзя, дзе супольна з рабочымі сталіцы і прадстаўнікамі працоўных іншых гарадоў урачыста адзначылі сваё свята.

## З ДУМКАЙ АБ БУДУЧЫНІ

На Дажынках выступіў гаспадар Дажынак Уладзіслаў Гамулка.

У сваёй прамове, ён адзначыў, што народная ўлада, асабліва ў апошнія гады стварыла карысныя ўмовы для развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Значна паменшыліся абавязковыя пастаўкі, павышана цэны скупу сельскагаспадарчых прадуктаў, палепшана забеспячэнне вёскі прамысловымі прадуктамі, сельскагаспадарчымі прыладамі, павялічаны дзяржаўныя крэдыты і т. п. Усё гэта дало выдатныя вынікі, але не магло вырашыць асноўнае заданне. Гэтае заданне заключаецца ў карэннай мадэрнізацыі нашай сельскай гаспадаркі, у яе інтэнсыфікацыі, у замене традыцыйных метадаў апрацоўкі зямлі і жывёлагадоўлі. Гэта перад усім абазначае неабходнасць прымянення ў сельскай гаспадарцы сучаснай тэхнікі.

Далей Уладзіслаў Гамулка звярнуў увагу на тое, што наша вёска з вялікім здавальненнем прывітала ўтварэнне Фонда развіцця сельскай гаспадаркі і ўсё больш уступае ў рады сельскагаспадарчых гурткоў. Але ёсць і такія, якім не падабаецца ідэя супольнага карыстання трактарамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. Яны гавораць, што гэтая дарога вядзе да прадукцыйных спулдзельняў.

Можна ім адказаць толькі тое: Бог з вамі! Ідзіце сабе сваёю дарогай. Не маем намеру — сказаў тав. Гамулка — нікога заганяць у сельскагаспадарчыя гурткі, а таксама прымушаць карыстацца машынамі, якія будуць у іх. Сёння яшчэ нашыя планы суцэльнай механізацыі сельскай гаспадаркі з'яўляюцца толькі планамі. Заўтра, калі ўсё шырэй будуць яны ставацца рэчаіснасцю жыцця і працы на вёсцы, пажадаюць карыстацца імі і ўступяць у сельскагаспадарчыя гурткі таксама тыя, якія яшчэ сёння, у выніку сваёй несведамасці, зракаюцца гэтых машын і староняць ад сельскагаспадарчых гурткоў.

Тав. Гамулка адзначыў важнае значэнне меліярацыі ў будучым пяцігадовым плане.

Механізацыя сельскай гаспадаркі і меліярацыя — гэта асноўныя, але не адзіныя сродкі ў паднашэнні сельскагаспадарчай вытворчасці. Побач з гэтым павінна ісці сельскагаспадарчая асвета — вось што з'яўляецца неабходным для інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі — падкрэсліў Уладзіслаў Гамулка.

Далей І-шы сакратар ЦК ПАРП гаварыў аб цэнтральным заданні нашай сельскай гаспадаркі, якім з'яўляецца развіццё жывёлагадоўлі. Тут перш-на-перш трэба пашырыць пашавую базу.

У яе стварэнні вялікую роль павінна адыграць кукуруза.

У заключэнне свайго выступлення Уладзіслаў Гамулка звярнуўся з заклікам да сялян, каб яны сумленна і тэрмінова выконвалі абавязковыя пастаўкі, а таксама і кантракты на пастаўку мяса і сельскагаспадарчых прадуктаў. У закліку да сялян - спулдзельцаў гаворыцца аб умацоўванні спулдзельчых гаспадарак, у закліку да моладзі — аб прысваенні любві да ганаровай прафесіі рольніка.



6 верасня адбыліся ў Варшаве агульнапольскія дажынкі. На здымку: гаспадары дажынак І сакратар ЦК ПАРП Ул. Гамулка і ганаровыя госці прэм'ер міністр Ю. Цыранкевіч, старшыня НК ЗСЛ Ст. Игнар, маршал сейма Ч. Вышэх і міністр земляробства Э. Ахаб у суправаджэнні старосты дажынак з мініятурамі дажыначных вянкоў. У глыбі цэнтральны вянок.

Фота — ЦАФ — Гжэнда



Кароль Лір — заслужаны артыст БССР А. Ф. Кістаў. Чытай на стар. 3. «Беларускі Кароль Лір заваяваў Джона Фернальда».

С. Яновіч — ст. інструктар ГП БГКТ

## НАПЯРЭДАДНІ

«Не так даўно ў вёсцы Кленікі Гайнаўскага павета арганізаваўся гурток Беларускага Таварыства. Пачаткова ў гурток уступіла толькі 9 асоб. Старшынёй быў выбраны сябра Уладзімір Ваўранюк. Ужо на першым пасяджэнні праўлення гуртка быў абмеркаваны план культурнай і прапагандыцкай дзейнасці. І да гэтага часу гурток у Кленіках шмат што зрабіў. Ён вышаў з родным словам на вёскі, пачаў папулярызаваць родную літаратуру, культуру. За мінулы час гурткоўцы паставілі чатыры беларускія п'есы: «Паўлінка», «Мікітаў лапаць», «Прымакі» і «Боты». У суме далі дзевяць выступленняў. Наведалі яны такія вёскі, як: Курашава, Чыжы, Тынявічы Вялікія, Ваські. Усюды іх прымалі з радасцю!»

Гэтыя словы напісаў у сваім пісьме да «Нівы» Аляксандр Закройшчык, настаўнік школы ў Кленіках. Пішучы аб гуртку ў сваёй вёсцы аўтар пісьма даў трапны, характэрны вобраз сучаснага развіцця беларускага самадзейнага руху. Плённая дзейнасць новаўтвораных гурткоў заахвочвае моладзь суседніх вёсак да арганізавання і ў сябе падобных гурткоў.

Дапамога Беларускага Таварыства ў працы гурткоў БГКТ і самадзейных мастацкіх гурткоў усё яшчэ недастатковая. Галоўнае Праўленне Таварыства забяспечыла свае павятовыя аддзелы Таварыства штатнымі інструктарамі.

У наступаючым асеннім сезоне Галоўнае Праўленне БГКТ мае намер адкрыць на старонках «Нівы» пастаянны куток — «Гурток працуе». У ім будуць змяшчацца матэрыялы, якія дапамогуць гурткам БГКТ і мастацкай самадзейнасці ў арганізацыі сваёй працы і інфармаваць аб апрацоўках рэпертуара. У кутку будуць змяшчацца таксама карэспандэнцыі з гурткоў, дзе гурткоўцы раскажуць аб сваёй дзейнасці і планах.

Галоўнае Праўленне БГКТ лічыць, што куток — «Гурток працуе» шмат дапаможа беларускім актывістам у арганізацыі належнай працы і павышэнні свайго арганізацыйнага ўзроўня.

У бягучым годзе нашае Таварыства ўпершыню пачне планава арганізаваць лекцыі лектараў для насельніцтва. Нядаўна створаная пры Галоўным Праўленні БГКТ Лектарская група пад кіраўніцтвам тав. Віктара Шведа, якая апрацавала ўжо падрабязны план дзейнасці — план гутарак і дакладаў у вёсках і мястэчках Беласточчыны. Гэта першая сур'ёзная спроба папулярызаваць ідэі БГКТ, якое з'яўляецца актыўным памочнікам сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

(Працяг на стар. 2)

У 33(181) № «Нівы» ад 16 жніўня г. г. быў змешчаны артыкул пад загалоўкам «Забойства маці. Сямейная трагедыя», у якім мы пісалі аб забойцы сваёй роднай маці Андрэю Белаказовічу з вёскі Відава каля Бельска. У артыкуле былі паданы факты, якія гаварылі аб абставінах і прычынах забойства.

У сувязі з гэтым артыкулам мы атрымалі ад нашых чытачоў некалькі лістаў, у якіх яны, як гэта вынікае са зместу лістаў, паставілі перад сабой пытанні: «што з'яўляецца прычынай сямейных трагедый у нашай вёсцы і як іх пазбыцца?» Стараліся на іх адказаць. Адзін з лістаў поўнасцю ніжэй змяшчаем. Чакаем на далейшыя лісты ад Чытачоў.

РЭДАКЦЫЯ

Дыскусійны артыкул

# АБ СЯМЕЙНЫХ ТРАГЕДЫЯХ

Як штотыдзень, так і ў суботу 15 жніўня ўзяў я пасля працы ў рукі «Ніву», каб прачытаць яе, як заўсёды ад пачатку да канца. Калі я ўбачыў загаловак «Забойства маці» — у вачах узніклі вобразы, якія звязаны з дарагім словам «маці» і хваля абурэння заліла мяне. Як жа гэта — забіць родную маці!.. Хто ж не адчуваў сябе бяспечным, калі маці сваімі кволымі рукамі кранала нашае маленькае цела, хто ж не быў шчаслівы, калі адчуваў яе гарачае сэрца.

Мы ўсе, калі падрастаем, забываем многае, але сэрца маці заўсёды аднолькавае, і ёй здаецца, што дзіця, калі і дарастае, патрабуе дапамогі і матчынай апекі як тады, калі вучылася гаварыць самае дарагое слова «маці».

Пасля такіх і падобных думак я прачытаў артыкул. Факты і толькі яны гавораць аб трагедыі, якой не замкне ніякі суд.

Ці маці Андрэя Белаказовіча з Відава была іншая? Чаму яна не любіла свайго сына? Я дакладна і падрабязна задумаўся над гэтым, хацеў знайсці карэнні Андрэявага злачынства і тут напаткаў вялікія цяжкасці. З абурэння, якое ахапіла мяне, засталося штосьці неакрэсленае. Мне асабіста, прызнацца, шкада Андрэя, не шкада Андрэя-забойцы, а шкада Андрэя-чалавека. Ён да гэтага часу быў такі самы як кожны з нас. Цяпер яго асудзяць. Але гэта не самае важнае. Бо ці ж не лепш было б, калі б Андрэй застаўся да канца добрым і сумленным чалавекам сярод нас? Ён, зразумела, не нарадзіўся злачынцам.

Кожны з нас глядзіць на пастулкі іншых, сам прымае ўдзел у жыцці сваёй вёскі, патрапіць ацэньваць усё па-свойму, дапамагаць іншым Але, калі захоча, можа таксама перашкаджаць, распальваць канфлікты не толькі ў сваёй сям'і, але і паміж суседзямі.

Калі сказаць камусьці з нас, што ён у шмат чым віноўны, напэўна пакрыўдзіцца. — Як жа гэта, я, спакойны чалавек, не бачыў ніколі суда, у чым мяне абвінавачваць — скажа не адзін. Але ці слова, не аднаго з нас, было часам сякерай, калом, каменям у руках Андрэяў ці Іванаў? З гэтым пытаннем можна звярнуцца амаль што да кожнага, таму, што многа ў нас розных спраў, якія часта канчаюцца трагедыяй.

Да гэтага можна не дапусціць. У нашай краіне працы хапае ўсім і кожны можа знайсці сабе месца. Аднак жа колькі ёсць выпадкаў, калі жэніцца старэйшы сын, ён застаецца дома. Малодшыя таксама дарастаюць, таксама жэняцца і імкнуцца застацца жыць дома. Даходзіць да падзелу гаспадаркі. А дзяліцца неаднойчы няма чым. Пачынаюцца сваркі, якія разгараюцца ўсё больш. Суседзі прыглядаюцца, смяюцца. Адзін кіне слова, іншы прыложыць... З цягам часу прыходзіць найгоршае, і тады ўжо гэтым займаецца суд.

Каб пазбыцца значнай колькасці падобных трагедый, нельга па-мойму дзяліць і раздрабляць гаспадарак. Гэта павінны акрэсліць юрыдычныя ўставы.

Калі чалавек топіцца, яго ратуюць. Андрэй утапіўся ў крыві, яму ратунку няма. Няхай іншыя Андрэі не топяцца ў крыві. Кожны з нас павінен памятаць, што ён чалавек. Няхай не будзе больш падобных трагедый.

М. Л.

в. Лука Гайнаўскі пав.

---

7)

Б. Нікіцюк

# У ІМЯ АЙЧЫНЫ

Налышла зіма 1943 года. Партызанскія атрады добра падрыхтаваліся да гэтай цяжкай пары. Выкапалі зямлянкі, нарыхтавалі харчы. Аляксандр Юрчук, Ігар Бабайлаў, Мікалай і яшчэ некалькі партызан з атрада імя Дзяржынскага атрымалі ад камандвання загад, даставіць прадукты, якія нарыхтавалі партызанам сувязныя.

Пераходзячы цераз вузкакалейную чыгунку непадалёк ад Тапіла партызаны заўважылі двух немцаў,якія ехалі на дрэзіне. Ігар расстраляў іх на месцы з аўтамата. Але нечакана, партызаны апынуліся пад крыжавым агнём гітлераўскай засады. Мікалай загінуў на месцы, а Ігар быў паранены.

Партызаны былі вымушаны чым хутчэй адступіць перад пераважаючымі сіламі ворага.

Настала марозная глухая зіма. Гэтай парой партызанскія атрады большасць свайго часу прысвячалі баявому і палітычнаму абучэнню. На ваенныя аперацыі выходзілі толькі невялікія партызанскія групы, мэтай якіх была ліквідацыя гітлераўцаў і іх шпіёнаў. Час-ад-часу арганізоўвалі таксама ўзрывы эшалонаў. Цяжкасць баявой дзейнасці заключалася ў тым, што сляды на снезе паказвалі немцам сілу і кірунак руху партызанскіх груп.

У лютым 1943 года ў Белавежскую пушчу прышла брыгада «У імя Айчыны», якая ўваходзіла ў склад Беластоцкага партызанскага злучэння. Яе камандзірам быў палкоўнік Міхась Янкоўскі, камісарам — Гуркін і начальнікам штаба Клімчэня. Сваёй дзейнасцю, брыгада ахапіла ўсю тэрыторыю Белавежскай пушчы і значную частку Бельшчыны. У яе склад увайшлі атрады імя Дзяржынскага, Макарава, Жукава і Кутузава.

З брыгадай безупынна садзейнічаў партызанскі атрад імя Сувbooрава. Пры штабе брыгады працаваў польскі капітан.

Аддзелам спецыяльных даручэнняў кіраваў Кузьміч, а Баця быў упаўнаважаным Цэнтральнага камітэта партыі. Вельмі добра валодаў польскай мовай. На пачатку 1944 года значна ўзмацніўся партызанскі рух, і пачаў набываць формы ўсенароднай масавай барацьбы з акупантам. Эфір гудзеў сігналамі партызанскіх радыёстанцый, дзень і ноч працавалі падпольныя друкарні. Пры штабе брыгады дзейнічаў Раённы камітэт Камуністычнай партыі, які выдаваў свой уласны орган «Гайнаўскі Рабочы».

Гайнаўскі Антыфашысцкі камітэт друкаваў у падполлі і кальпартаваў лістоўкі. На тэрыторыю Гайнаўшчыны кальпартавалася таксама газета «За нашу перамогу», якая ў № 20 у артыкуле «Здзекі гітлераўскіх бандытаў» пісала:

— «У раёнах Беластоцкай акругі немцы фізічна знішчаюць і вывозяць на паднявольную працу ў Нямеччыну нашых людзей. Разбураюць прамысловасць і сельскую гаспадарку. Так, напрыклад, безупынна вывозяць моладзь і фізічна здаровых людзей на працу ў Нямеччыну, з тэрыторыі Гайнаўскага, Бельскага, Бранскага, Цеханоўскага і іншых раёнаў.

З вёсак Арэшкава, Дубін, Навасад, Дубіч - Царкоўных, Малец і іншых вывезена па 50—60 асоб, гэта значыць, амаль усіх працаздольных жыхароў.

Гітлераўцы спалілі ўсе вёскі вакол Белавежскай пушчы, частку іх жыхароў расстралялі, а рэшту пагналі на паднявольныя работы.

Гітлераўскія акупанты нішчаць вырашчаны вякамі Нацыянальны парк і Запаведнік Белавежскай пушчы, арганізуючы ў іх масавыя паляванні.

Гітлераўскія бандыты нішчаць наш народ, страшэнна тэрарызуюць яго, і арганізуюць масавыя расстрэлы. Аднак народ не пакарыўся, але наадварот, яшчэ больш узрасла нянавісць да нямецкага акупанта. Народ чакае прыходу сваёй вызваліцельніцы Чырвонай Арміі і з вялікай упартасцю і энергіяй устае да барацьбы з гітлерызмам».

Атрад імя Дзяржынскага павялічыўся, арганізацыйна ўмацаваўся і загартаваўся ў баях. У яго радах знаходзілася шмат мясцовых людзей — Сцяпан Койла, Аляксандр Юрчук, Тодар Бяглюк, Уладзімір Койла, Ольга Койла, Рыгор Саевіч Аляксандр Грэдэль з Дубін, Цярэнці Яноўскі з Перахода', Іван Салавянюк з Навасад, Марк Вашчэнка з Навасад, Сцяпан Назарук з Лянева, Іван Еўдасюк з Шастакова, Павал Гушча з Ліпін, Мароз з Старога Беразова і інш.

Партызаны гэтага атрада ў сакавіку 1944 года спалілі нямецкі маёнтак у Дзенцялове. Яго ўласніка — высокую нямецкую персону — расстралялі.

Штаб брыгады «У імя Айчыны» атрымаў на пачатку месяца красавіка 1944 года радасную звестку з Цэнтральнага штаба партызанскага руху, які паведаміў, што ім будзе скінуты камсамольскі дэсант у складзе 12 асоб. На месца высадкі дэсанта выбрана невялічкую палянку непадалёку Чарлёнкі.

Атрад імя Дзяржынскага акружыў гэтую палянку заставамі, расставіў далёкія дазоры. На палянцы раскладзена тры вогнішчы, як сігнал для лётчыка. Усёй падрыхтоўкай да прыёму дэсанта асабіста кіраваў палкоўнік Мартынаў. І вось настала чаканая гадзіна. Партызанам не цярпелася. Раптам пачулі, што недзе здалёку набліжаецца самалёт. Гул матораў нарастаў у паветры і на начным небе яны ўбачылі як жа добра знаёмы савецкі апарат. Паказаліся белыя купалы парашутаў. налічылі іх пятнаццаць. Самалёт яшчэ раз закруціўся і замільгаў сігнальнымі агнямі на развітанне.




Капітан Кузняцоў, слаўны партызан атрада імя Макарава.

Пасадка парашутыстаў адбылася паспяхова. Адшукалі таксама 3 парашуты. якімі скінута зброю і амуніцыю. Дэсант абазначаны крыптонімам «Камсамольская аперацыйная група беларускага фронта» затрымаўся пры штабе брыгады «У імя Айчыны». Ён атрымаў спецыяльнае



© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

## З гісторыі беларускай народнай кухні

**чыстатой і акуратнасцю вызначалася заўсёды беларуская кухня**

# БЕЛАРУСКІЯ СТРАВЫ

# ХЛЕБ



Шматвяковую, багатую і цікавую гісторыю мае беларуская народная кухня. Яна зрабіла значны ўплыў на кухні сваіх суседзяў — рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў.

Сучасны літоўскі вучоны В. Мілюс у сваёй працы «Страва і хатні пасудак літоўскіх сялян у XIX—XX ст. ст.», гаворыць, што літоўцы і латышы пераняли слова талакно — talakna ад беларусаў. Талакно — спецыяльна прыгатаваная аўсяная мука. Агульная назва супа з круп у беларусаў — крупнік, крупеня; у палякаў krupnik, у літоўцаў — krupnikas.. Агульна вядомая беларуская зацірка ў літоўскай кухні мае назву zacirka, у польскай кухні — zacierka, ва украінскай — затірка.

Трэба адзначыць, што з запісаў пра даўнюю беларускую ежу мала што дайшло да нашых дзён. Мы можам аб ёй меркаваць толькі па тых нешматлікіх і адрывачных запісах, што пакінулі нам М. Я. Нікіфароўскі і П. В. Шэйн, вядомыя даследчыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Але народ данёс да нашага часу багата кулінарных ведаў і навыкаў.

У вялікіх сялянскіх сем'ях для выпечкі хлеба і прыгатавання ежы выбіралася спрактыкаваная ў кулінарыі жанчына. Яна павінна была вызначацца сваёй чысцінёй і акуратнасцю. Гэтаму ў беларусаў заўсёды аддавалася вялікая ўвага.

Асабліваe месца ў харчаванні народа належала хлебу. Яго лічылі святым, надзённым. Многа ласкавых назваў і эпітэтаў даў яму народ. «Хлеб у доме — гаспадар, на працы — друг у дарозе — таварыш», — гаварылі аб ім. Ці яшчэ: «Хлеб над усім пануе», «Хлеб — усяму галава».

У дзяцей змалку выхоўвалася пашана да хлеба. Нават калі ў іх была бойка, сварка, то і тады, хлеб адкладваўся ўбок, і толькі пасля заканчэння бойкі яго бралі і даядалі. З хлебам ішлі на хрэсьбіны, у сваты і на вяселле. З хлебам і соллю праводзілі і сустракалі дарагіх гасцей. Гэты добры звычай і цяпер застаўся ў нашага народа. Калі хлеб пяклі з чыстай жытняй прасеянай мукі, то такі хлеб называўся пірагом. Перад тым, як пасадзіць яго лапатай у печ, гаспадыня гаварыла: «Госпадзі, благаславі! З чаго хлеб, з таго і пірагі!»

Па меры таго, як аддаляўся час ад жніва і памяншаліся запасы жыта, хлеб мяняўся па свайму выгляду і якасці. Таму ён меў у народзе некалькі характэрных назваў. Самая нізкая якасць хлеба, вядома, была вясной.. Лічыўся яшчэ добрым хлебам «паловы», «градовы» і «пушны». Градовы хлеб пёкся з непрасеянай жытняй мукі. Далей ішоў паловы хлеб. Ён складаўся з двух роўных палавін, з якіх адна была заўсёды жытам, а другая — грэчка, ячмень або авёс. Пра такі хлеб



гаварылі, што яшчэ не паспеў спячыся, як ужо зачарствеў. Калі жыта зусім не прасейвалася, а толькі пасля малацьбы выкідвалася дробная салома, пустыя каласы і кавалачкі гліны, што траплялі з тока, то мука з такога жыта ішла на пушны хлеб. У гады дрэннага ўраджаю збожжавых культур пяклі бульбяны хлеб. У такі хлеб у розных долях уваходзіла бульба. Бульбу або адварвалі ў мундзірах і затым таўклі яе, або сырую дралі на тарцы, добра вымыўшы ў вадзе. Сапраўдным бядняцкім хлебам вясной і асабліва ў галодныя неўраджайныя гады быў мякінны хлеб. Для такога хлеба за аснову бралася жытняя, аўсяная, прасяная, льняная, грэчневая мякіна. Толькі як звязваючае рэчыва была ў ім мука. «З мякінаю лёгка хадзіць, ды цяжка ногі валачыць» — казалі пра такі хлеб. Але бывала, што ў галодныя гады і мякіны не хапала, тады прыходзілася пячы хлеб з жолудаў, з кары, шчаўя, крапівы, асоту, лебяды. «Не бяда, калі ў хлебе лебеда, — тады бяда, калі хлеба няма». Аб гэтым гаварылі і назвы некаторых бедных вёсак і іх жыхароў, такіх, як Караеды, Мякіннікі і іншыя. Так было з хлебам у сялян - беднякоў і сераднякоў у мінулым.

Калі ў хаце не было печанага хлеба, пяклі скавароднікі, лапуны, сычні, праснакі, драчаны. Гэта былі так званыя пасобнікі, памочнікі хлеба. Скавароднікі пяклі з хлебнага цеста на велічыню дамашняй патэльні. Лапуны і сычні былі танчэй скаварodніка, але таўсцей за бліны. Сычні і лапуны часта пяклі з прыпёкам, гэта значыць з начынкай, якая клалася ў сярэдзіну. Начынкай часцей за ўсё была тоўчаная бульба з маслам ці салам, тварог, сухія ці сырыя яблыкі, грушы, слівы, вішні, а таксама ягады і грыбы. У некаторых выпадках такую начынку маглі мець і скавароднікі.

Каржы, сухары, хрушчы, пернікі, аладкі пякліся і пякуцца цяпер з лепшай, добра прасеянай мукі і расчыняюцца ў большасці выпадкаў на кіслым або салодкім малацэ. Апрача гэтага, у цеста дабаўляюць яйкі, тлушч, цукар, соду. Раней пяклі каржы, сухары, хрушчы, пернікі, аладкі ў асабліва ўрачыстых выпадках.



## РЫБА - МЕСЯЦ

**Не думайце, што на здымку бачыце шчаслівых рыбаловаў, якія цудуюцца над тым, як падзяліць дабычу. Не. Гэтых людзей турбуе іншае: як пусціць назад у мора велізарную рыбу - месяц.**

**Звычайна рыба - месяц не падплывае блізка да берага. Але гэтая відаць паплыла за дабычай і ўскочыла на пляж аднаго з гарадоў Аўстраліі. У гэты час пачаўся адліў і рыба засталася ў невялікай лужыне між каменнямі. Гадзіны тры прасядзела там, пакуль вярнулі яе ў мора.**

**Трэба сказаць, што зрабіць гэта было нялёгка. Прыгажуня ж важыла 600 кілаграмаў.**

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### СРОДКІ КАМУНІКАЦЫІ

— Ужо ў канцы нашага стагоддзя ў большых гарадах будуць забаронены механічныя сродкі камунікацыі, — сцвярджае праф. Званкоў. Іх месца зоймуць тратуары, якія будуць рухацца аўтаматычна і верталёты.

Будучыню авіяцыі бачыць Званкоў у аэрапланах, палівам якіх будзе атамная энергія, якія будуць лётаць на вышыні 15 — 20 км. з хуткасцю 5—6 тысяч кіламетраў у гадзіну. Караблі будуць вазіць па 100 — 200 тысяч тон груза з хуткасцю 150 км. у гадзіну. Пасажырскія караблі будуць плываць пад вадой. Дзякуючы гэтаму пасажыры вызваляцца непрыемнай качкі. Полюс караблі будуць пераадольваць пад лёдам. Зразумела, што гэтыя караблі будуць рухацца з дапамогай атамнай энергіі.

### ЗЯМЛЯ ЗАЦВІЦЕ

— Але і аб Зямлі не забудуць вучоныя 2000 года, — піша праф. Дзімітры Шчарбакоў, кіраўнік геалагічна-геаграфічнага аддзела Акадэміі навук СССР. Паасобныя абшары, а нават цэлыя часткі Зямлі зменяць свой характар. Ужо сёння магчыма змяніць клімат праз рэгуляцыю марскіх цячэнняў. У будучыні будзе магчыма пакіраваць не толькі марскімі цячэннямі, але і ветрам. Над пустынямі клімат стане больш вільготны. Масы вечнага лёду ў паўночнай Сібіры, а мо' і Грэнландыі будуць стоплены. Востры клімат унутры кантынентаў змягчэе, і ўся Зямля зацвіце.

Некаторыя з вышэй пададзеных выказванняў савецкіх вучоных могуць выдавацца фантазіяй. Але многія здабычы сучаснай навукі далёка перавысілі найбольш смелыя навуковыя прагнозы вучоных XIX ст. Сёння існуюць усе прадпасылкі, каб гэтыя выказванні сталі рэчаіснасцю.

## Новыя кнігі

### Беларускі эпас

**За апошні час у БССР, прыкметна ажывілася работа па збіранню і вывучэнню творчай спадчыны народа. Сярод гэтай спадчыны асабліваe месца займае зборнік «Беларускі эпас», які нядаўна вышаў у свет пад рэдакцыяй Глебкі і Гутарава. Асобнае выданне зборніка эпічных твораў беларускага народа ажыццяўляецца ўпершыню.**

### Psychologiczne podstawy kształtowania poglądu na świat dzieci i młodzieży

**Гэтую кніжку нядаўна выпусціла Познанскае таварыства сяброў навук. Аўтар яе, Баляслаў Гарноўскі, робіць аналізу галоўных псіхічных працэсаў, на якіх базе ўкладваецца светапогляд дзяцей і моладзі ў асяроддзях сямейным, дашкольным і школьным. Тыраж 1000 экз.**



## ДРЭВЫ

**Наўрад, ці каму з вас давялося бачыць дрэвы такой арыгінальнай формы. Уецца штопарам ствол аднаго дрэва, галінкі другога складаюць гіганцкі пясчаны гадзіннік, трэцяе стаіць нібы сторож з чатырмя нагамі, а раздвоены ствол чацвёртага выгнуўся ў форме сэрца.**

**Гэтыя незвычайныя дрэвы ўпрыгожваюць участак аднаго амерыканскага садавода. Каб атрымаць такія формы, ён прысвяціў гэтаму 30 год сваёй працы.**

## У ЛОНДАНЕ

Некалькі тысяч марскіх чаек пасяліліся на лонданскім аэрадроме. Пэўна, лепш быць блізка багатай аэрадромнай кухні, чымсці лётаць над халоднымі хвалямі Ла Манша і Цемзы.

Птушыныя стаі перашкаджалі самалётам пры пасадцы і ўзлёце, а нярэдка былі прычынай аварый. Трэба было распачаць барацьбу з імі. Птушак забівалі, нішчылі іх гнёзды, але нішто не памагала, — колькасць птушак не змяншалася.

Выручыла радыё. На плёнку магнітафона быў



запісаны перасцярагальны крык чайкі - стаража. І цяпер гэты крык трывогі гучыць з рэпрадуктараў перад кожным прызямленнем і ўзлётам самалётаў. Пачуўшы яго, зманеныя чайкі пакідаюць аэрадром і хаваюцца ў бяспечнае месца.

